# РАСЬЦЕ ВЯЛІКАЯ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ ЛІТАРАТУРА

## Адкрыцьце пленуму

Першы пашыраны пленум Арганізацыйнага камітэту Саюзу савецкіх пісьменьнікаў БССР адкрыўся 24-га лютага ў памяшканьні Польскага Дзяржаўнага Тэатру.

У залі—пісьменьнікі, работнікі мастацкага фронту, рабочыя-ўдарнікі, студэнты.

Пленум адкрывае старшыня Аргкамітэту тав. Клімковіч.

Спыняючыся на дасягненьнях сацыялістычнага будаўніцтва, на дасягненьнях першай пяцігодкі, на велізарнай гістарычнай важнасьці пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б, т. Клімковіч кажа:

„У выніку рэалізацыі пастаноў ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б мы маем за гэты год ад часу пастаноў, пераход да савецкай улады, да актыўнага ўдзелу ў сацыялістычным будаўніцтве, надвышэньне творчай і палітычнай актыўнасьці пісьменьніцкіх мас Савецкай Беларусі і ўсяго Савецкага Саюзу. Гэты год быў годам вялізарнага росту нашых пісьменьнікаў. Аднак, задачы, якія пастаўлены перад намі надыходам другой пяцігодкі пабудовы бяскласавага грамадзтва, вымагаюць ад нас значна большага. У сьвятле гэтых задач зроблена вельмі мала, менш таго, што можна і патрэбна было зрабіць".

Спыняючыся на дасягненьнях і недахопах работы Арганізацыйнага камітэту, т. Клімковіч задачы пленуму вызначае так:

— Наш пленум, які сабраўся сёньня, падагульваючы пройдзенае, павінен стаць сапраўды новым этапам у сэнсе пастаноўкі творчых пытаньняў нашай савецкай літаратуры, указаць і вызначыць шлях для зьнішчэньня тых перашкод, якія стаялі перад намі і перашкаджалі нашаму далейшаму росту, г. зн.—зьнішчэньне рэштак групаўшчыны, якая яшчэ засталася ад раппаўскіх часоў у нашай арганізацыі.

— Наш пленум павінен зьнішчыць тое адставаньне, якое мы мелі дагэтуль у нашай рабоце. У гэтай рабоце мы павінны ўжываць сапраўды бальшавіцкую самакрытыку. Самакрытыка ў нас разгорнута надзвычайна слаба. Гэта адно з самых слабых месц ва ўсёй рабоце пісьменьніцкіх арганізацый. Мне здаецца, я выкажу думку ўсяго пленуму, калі скажу, што наш пленум будзе прыкладам у сэнсе разгортваньня бальшавіцкай пралетарскай самакрытыкі.

Далей т. Клімковіч падрабязна спыняецца на праявах клясавага ворага на літаратурным фронце, спыняецца на недастатковасьці барацьбы з гэтымі праявамі з боку нашай арганізацыі.

— На фронце літаратуры мы маем вылазкі клясавага ворага пад фальшыва-нацыянальным сьцягам у форме вялікадзяржаўнага шавінізму і контр-рэвалюцыйнага нацыянал-дэмакратызму. Мы павінны адзначыць, што на пройдзеным этапе наша арганізацыя праявіла гнілы лібэралізм, прытупленьне клясавай пільнасьці ў адносінах да вылазак клясавага ворага.

Наш пленум павінен зьвярнуць увагу ўсёй пісьменьніцкай грамадзкасьці на барацьбу з клясавым ворагам, яшчэ мацней згуртавацца вакол ажыцьцяўленьня ў літаратуры генэральнай лініі партыі.

З вялізарнай прывітальнай прамовай выступае адказны сакратар Аргкамітэту саюзу савецкіх пісьменьнікаў СССР т. Кірпоцін.

Пленум вітае т. Тарыч ад імя калектыву кіно-фабрыкі „Савецкая Беларусь":

— Дазвольце, таварышы, спадзявацца, што наша ўзаемная работа дапаможа стаць савецкай кінематаграфіі на трывалы моцны шлях.

Старшыня дае слова палітэмігранту, былому паслу польскага сойму т. Дварчаніну.

Прамоўца гаворыць пра жудаснае становішча ў Заходняй Беларусі, пра ўціск беларускай культуры польскім фашызмам, і пра вялізарны росквіт культуры, сацыялістычнай па зьместу і нацыянальнай па форме, тут, у Савецкай Беларусі.

— Канчаючы сваю прамову, я заклікаю пісьменьнікаў Савецкай Беларусі яшчэ больш асьвятляць жыцьцё і барацьбу працоўных мас Заходняй Беларусі,—гаворыць т. Дварчанін.

## Сучаснае становішча беларускай савецкай літаратуры і задачы саюзу СПБ (даклад тав. Клімковіча)

Дакладчык надзвычайна шырока спыняецца на тых вялізарных дасягненьнях, што дасягнуты за першую пяцігодку ў галіне прамысловасьці, сельскай гаспадаркі, культуры і навукі, разам з гэтым прыводзіць лічбы і факты заняпаду капіталістычнай гаспадаркі, крызісу буржуазнае культуры.

Далей дакладчык пераходзіць да пытаньня пра ўдзел пісьменьнікаў Савецкай Беларусі ў вагромністай рабоце нашай партыі і пралетарыяту па завяршэньню фундаманту сацыялістычнай экономікі і перавыхаваньню мільёнаў мас працоўных, кажа пра тое, як нашы пісьменьнікі скарыстоўвалі магутную зброю савецкай літаратуры супроць клясавага ворага, які шалёна спрабаваў і спрабуе захаваць свае пазыцыі—пазыцыі эксплёататара, драпежніка.

## Клясавае змаганьне ў беларускай літаратуры ў мінулым

Т. Клімковіч спыняецца на вылазках і праявах нацыянал-дэмакратызму ў беларускай літаратуры за апошнія гады, а менавіта на такіх рэчах, як „Камбайн" і „Пурпуровых ветразяў узьвівы"—Дубоўкі, „Лісты да сабакі" і іншыя кулацкія вершы Пушчы, п'еса „Францішак Скарына"—Грамыкі, „Здарэньні з камісарам"—Цішкі Гартнага, раман „Крывічы", „Падарожжа на новую зямлю" М. Зарэцкага, „Вецер з Усходу"—Дудара, „Случчына" Лужаніна. Уся гэта пісаніна абгрунтоўвалася тэарэтычнымі работамі нацдэмаўскіх „крытыкаў" Бабарэкі, Адамовіча, нацдэмаўскіх вучоных акадэмікаў: Ігнатоўскага, Гарэцкага, Ластоўскага. Падобныя тэарэтычныя абаснаваньні нацдэмаў былі і ў шэрагу папярэдніх работ Піотуховіча (нарысы пра беларускую літаратуру) і інш.

Ход разьвіцьця клясавай барацьбы пад кіраўніцтвам партыі даваў усё новыя і новыя перамогі пралетарыяту.

Партыя выкрыла і разграміла нацдэмаўскую арганізацыю, ачысьціла ўсе вучасткі, якія ў свой час былі захоплены нацдэмамі, паказала клясавую сутнасьць „адраджанізму", выкрыла фальсыфікатараў гісторыі. Партыя прыкавала ўвагу ўсёй пралетарскай грамадзкасьці да барацьбы з буржуазным нацыяналізмам ва ўсіх яго праяўленьнях.

*(Працяг гл. на 3-ю стар. вокладкі).*



Група пісьменьнікаў удзельнікаў пленуму Аргкамітэту С.С.П.Б. Зьлева направа сядзяць: т.т. Янка Купала, Якуб Колас, М. Чарот, Кірпоцін, Дунец. Стаяць: І. Харык, Александровіч, Бранштэйн.



Адказны сакратар Усесаюзнага Камітэту С.С.П. т. Кірпоцін.

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВІК
АДРАС МЕНСК, ГАЗЕЦНАЯ, 53
РЭДАКЦЫІ: Тэл. № 17 — 09
АДКАЗНЫ РЭДАКТАР М. ХВЕДАРОВІЧ
САКРАТАР Я. ШАРАХОЎСКІ
АФАРМЛЕНЬНЕ НУМАРУ А. ТЫЧЫНЫ

САКАВІК
№ 5 (77)
1933
ГОД ВЫДАНЬНЯ IV

## IV СЭСІЯ ЦВК БССР

Ад 8-га па 14 лютага гэтага году ў памяшканьні Цэнтральнага дому Селяніна праводзіла сваю работу IV сэсія ЦВК БССР X скліканьня.

Адкрываючы сэсію старшыня ЦВК БССР тав. Чарвякоў у сваёй уступнай прамове, падрабязна спыніўся на вязізарных посьпехах гаспадарчага і культурнага будаўніцтва ў выніку выкананьня пяцігодкі ў чатыры гады, і ўказаў, што адным з галоўнейшых пытаньняў, якія Сэсія распрацуе— кантрольныя лічбы народна-гаспадарчага пляну на 1933 год.

„Наша задача,—адзначыў тав. Чарвякоў,—будзе заключацца ў тым, каб забясьпечыць поўнае выкананьне колькасных паказчыкаў народна-гаспадарчага пляну 1933 году“ і, што колькасныя паказчыкі мы зможам забясьпечыць толькі на падставе поўнага выкананьня ўсіх якасных паказчыкаў“.

У парадку дня работы сэсіі стаялі таксама пытаньні дзяржбюджэту і пасеўных плянаў на 1933 год і мерапрыемстваў зьвязанных з падвышэньнем ураджайнасьці ў 1933 годзе.

Тав. Чарвякоў даў разгорнутую крытыку контррэволюцыйнай дзейнасьці рэштак нацыянал-дэмократаў, якія прыкрываюцца фальшыва-нацыянальным сьцягам. Тав. Чарвякоў указаў, што абвастрэньне клясавай барацьбы „патрабуе ад нас большай рэвалюцыйнай пільнасьці, патрабуе ад нас яшчэ большага бязьлітаснага змаганьня супроць клясава-варожых элемэнтаў, і гэта павінна зьявіцца адной з важнейшых умоў нашага пераможнага прасоўваньня ўперад“.

Сэсія шырока абмяркоўвала даклады: старшыні СНК БССР тав. М. Галадзеда „Аб кантрольных лічбах народна-гаспадарчага пляну на 1933 год“, наркомфіна БССР тав. Хацкевіча „Аб дзяржбюджэце БССР на 1933 год“ і даклад наркома саўгасаў БССР тав. Жолудава — „Пасеўныя пляны на 1933 год і практычныя мерапрыемствы па ўздыме ўраджайнасьці“.




Угары зьлева: старшыня СНК БССР тав. ГАЛАДЗЕД робіць даклад аб кантрольных лічбах народна-гаспадарчага пляну на 1933 г. Угары справа: старшыня ЦВК БССР тав. ЧАРВЯКОЎ адкрывае сэсію. Унізу зьлева: дэлегаткі сэсіі калгасьніца калгасу „Новае Жыцьцё“ Асіпавіцкага раёну тав. Лелява (зьлева) і работніца Добрускай папяровай ф-кі т. Буцькіна. У цэнтры: дэлегаты ў залі паседжаньня слухаюць даклад. Унізу: прэзыдыум сэсіі.



**Калгасьніцы-лесасекі з Комі-Пермяцкага калгасу імя Буланава т.т. Папопа і Рудакова — лепшыя ўдарніцы лесанарыхтовак (Урал).**

Міх. Гольберг

# ХЭМЛІН

*(НАВЭЛЯ)*

## 1. ЗАВЯЗКА

Джон Хэмлін і таварыш Сяргеева вызначаліся нязломнасьцю характараў. Першы быў сварлівы, дакладны і чорныя тасемачкі, якімі былі зьвязаны кудлатыя вушы ягонай рускай шапкі, заўсёды ўпрыгожвалі верх акуратным банцікам. Другая шмат курыла і любіла моцныя выразы. Яны аніяк не маглі згаварыцца. Да таго-ж Сяргеева была прыслана на завод Аўтотрактарным Інстытутам і яшчэ атрымлівала з Маскоўскага інтэрнату лісты, якія нязьменна пачыналіся так: „Здарова, Жэнька"...

А першая зіма, якую праводзіў у СССР Хэмлін, распачынала шосты дзесятак на бягучым рахунку ягонай старасьці. У Дэтройце ў яго меўся дом і засталіся ўнукі—школьнікі.

Сонца сакавіковай раніцы сьвяціла шчыра і шчодра.

Яны стаялі ля вытокі канвэйера аўтамабільных корабаў.

Жоўты кругляк сонца ляжаў паміж непарушнымі гільзамі рольганга. Ён быў падобны на тую сьвежа-афарбаваную жоўтую пешку, якую павольна рухаюць па клетках клюбныя шашыстыя. Але ігра яшчэ не распачалася.

Рольганг ня кратаў тысячай сваіх жалезных гільзаў.

Канвэйер быў пусты.

Вузкі грабень канвэйера адцягваў зрок у белую нескончонасьць цэху. Вока коўзалася па іржавай клявіятуры рольганга, па бліскучых сьценах, па жалезных калёнах, якія мелі свае нумары і вызначалі роўныя кавалкі цэхавай тэрыторыі, па бэтонавай, закапанай вапнай падлозе, на якой там-сям стаялі варштаты і часткі станкоў. Чорная лінія канвэйеру ўразалася ў квадратовыя, сушыльныя камэры, гублялася, ізноў выраблялася на прастору і ізноў імкнівіла ў зіхаценьні вапны, як страла чыгункі, якая абмінула тунэль. Канечная станцыя—галоўны канвэйер. Калі прыедзе, кораб, яго паставяць па шасі.

— Каб 22 корабы кожны дзень! Фордаўскіх умоў не дамо.— Сяргеева наладжвае край папяроснай пушкі. — Не, не дамо Фордаўскіх умоў, — паўтарае яна, вывуджваючы двумя пальцамі папяросу.

Сяргеева не адважаецца загаманіць па-ангельску,—у інстытуце худзенькая выкладчыца папраўляла на кожным слове.

Побач інжынэр Капелевіч пагладжвае пухлым пальчыкам падбародак. Ён перакладзе. Капелевічу прыемна гутарыць па-ангельску і насіць штаны „гольф". Гэты кароценькі паўсюдны чалавек даволі адвастрыўся ў мове за час замежнай камандыроўкі.

— Удаўбіце яму—дваццаць два корабы кожны дзень. Інакш плян правалім.—Сяргеева трымае ў зубах папяросу. Ад агоньчыку запалкі, прыкрытага далоньню, слаба ружавеюць пальцы.

Джон Хэмлін глядзіць на дымячыя вусны дзяўчыны, у якой белыя дзіцячыя валасы запхнуты пад скураны шлём, але адна кволая пасма зьвісае ўдоўж віска.

Залатыя акуляры вельмі ёмка сядзяць на тоўстым носе спэцыяліста па мэталёвых корабах, які праслужыў у Форда ў Рывер-Ружы дваццаць пяць год. Ён — фін. Ён—упарты. Ён можа быць бацькам гэтай рускай дзяўчыны. Але Хэмлін стаіць паважна.

Чырвоная шыя старыка спаласаваная зморшчыкамі, нярухома.

Капелевіч рассыпаў лагодныя ўхмылкі. Стары фін не ўхмыляўся. Засіпеў сьцёртым голасам. Загаварыў пра парадак. Ці-ж ня хоча Джон Хэмлін завесьці ў цэху парадак? Дайце яму час расставіць людзей па канвэйеру, кожнаму растлумачыць, што трэба рабіць. Дайце, па-другое, інструмант...

— Ну, і шкодны-ж стары!

Дзяўчына шпарка пайшла не разьвітаўшыся.

Кантам скуранога пальта, яна дакранадася нізкага рольганга.

Цэх сьветлы і вялізны. Плян. Трое хлопцаў грэецца ў сушыльнай камеры. Плян!

Сьпіртавы пах фарбы сьпіральна ўзьнімаецца да шклянога даху. Плян!

Скураное пальто дзяўчыны бліснула ў канцы лініі, дзе канвэйер корабаў пад простым кутом заварчваўся да галоўнай зборкі.

Аксамітная рабочая сьвітка Джона Хэмліна была старанна вычышчана і зіхацела. Ён ссунуў сваю рускую шапку на патыліцу, сьцягнуў акуляры з пераносься. У тоўстых пальцах з вялікімі белымі квадратамі ногцяў асьляпляльна бліснула сонца. Выцягнуў з кішэні хустачку, працёр шкельцы і хітранька хмурачыся паглядзеў на Капелевіча.

— Тваса тва Куусова,—сказаў ён раптам па-фінску—

Хо-хо!

## 2. ГАЗЭТА

Ганьбу лютага змыем перамогамі ў сакавіку.

Гасразьлік—аснова перамогі. Б'ем трывогу. Рады ўдарнікаў растуць.

Забясьпечым рэгулярны выпуск корабаў. Да канца сакавіка на галоўны канвэйер павінны быць дастаўлены 400 корабаў. Начальнік цэху тав. Сяргеева гарантуе выкананьне пляну.

Тыя, што працуюць па афарбоўцы корабаў брыгады Лорына і Кожына, перайшлі на гаспадарчы разьлік, абвясьцілі сябе ўдарнікамі і сяруць на сябе абавязкі — выпушчаць па

—„Для першага разу сойдзе“. Лагодзячая ўхмылачка падсалоджвала агруту гэтых слоў.

Сяргеева пабачыла маленькага інжынэра лобач з Хэмлiным i раптам уся ўздрыгнулася ад ненавісьці.

— „Піянэры засьмяюць гэткую работу,—прамовіла яна холадна і хрыпла.

Кроплі агню ў зрэнках пакрыліся сьвінцовым налётам.

## 7. ХЭМЛІН ВЯРТАЕЦЦА ЗАНАДТА ПОЗНА

У паўзмроку пустой шафы складачка да складачкі віселі ніштаватыя штаны. Драўляная ключыца вешалкі прашчупвалася скрозь ніштаваны пінжак.

У квадратным пакоіку, апроч шафы, стаяў доўгі чамадан кракадылявай скуры, ангельскі ложак з шышачкамі, крэсла з перакінутым на спінцы махровым ручніком. На падаконьніку футляр ад акуляраў, зубная шчотка ў касьцяным футляры, прылады для галеньня і нікелевая мыльніца.

У сем гадзін вечара пакой рэчаў быў патрывожаны.

— „Ток-ток-ток, — чыесьці сагнутыя пальцы разьмерана стучэлі ў дзьверы.

— Містэр Хэмлін?

Парушынка села на складачку штаноў. Нікелевая мыльніца злавіла электрычны прамень вулічнага ліхтара.

— Містэр Хэмлін?

Ангельскі ложак настарожыўся ўсімі сваімі чатырма шышачкамі. Электрычны прамень споўз з падваконьніка. Паморшчаная скура чамадана засрабрылася. Белыя чатырох-кутовыя наклейкі зіхацелі на яго доўгім тулаве.—„Ду-дуу,—прапяяў за вакном аўтамабільны ражок і расахатая цень імкліва хіснула пакой налева.

Падалі сэкунды, стукаючы ў мільёнах камізэлечных кішэняў, на мільёнах рук, на бязьлічным мностве сьцен. За вакном быў ліхтар, чорная сакавіковая дарога. Прытульныя агні дамоў ляжалі ў сіняватай імгле вечара, а яшчэ далей агні дрыжэлі.

У маўчаньні квадратовага пакою суха татакнула батарэя паравога атапленьня. Гарачы струмень паветра крануўся фарбаваных ножак табурэткі.

За дзьвярыма загрымела. Шчоўкнуў замок, палымнуў сьвет і чалавек у махнатай шапцы асьвятліўся на парозе. Залатыя акуляры моцна сядзелі на тоўстым носе. Чалавек павольна разьдзяваўся. Яго вялікае цела рухалася лёгка ў пакоі, чамадан саступаў яму з дарогі, нікелевая мыльніца радасна зіхацела насустрач.

Хутка каля гадзіны ўначы, містэр Хэмлін, захапіўшы ручнік і мыльніцу, накіраваўся ў ванны пакой.

## 8. І ЯШЧЭ РАЗ ГАЗЭТА

Даць шэсьцьсот машын у красавіку. Апэратыўная з цэхаў. Зламаць апартуністычнае супраціўленьне. Працаваць бяз браку. Цэх корабаў выканаў план па колькасных паказчыках, але дапусьціў брак (няспраўнасьць ручак кабіны). Дзякуючы ўмяшаньню чужаземнага спэцыяліста Хэмліна, дэфэкт быў выпраўлены на працягу ўчорашняга дню...

## 9. РАЗЬВЯЗКА

Ён пасьпешна крочыць удоўж рольганга, расчыняе дзьверы кабін і абмацвае шурпатыя сядзеньні.

Сядзеньні пругкія.

Тоўстыя пальцы цікаўныя і недаверлівыя.

Яны сьлізгаюць па халоднай роўнядзі шкла, стукаюць па цяжкім ліцьцю бэнзыннага баку.

У канцы злучальнай галерэі парыўчата задыхаў матор. У паветры, напоеным сьпіртовым пахам фарбы, застучала шалёная скарагаворка чатырохтактнага рухавіка. Прабавалі з канвэйера аўтамабіль.

Хэмлін падыходзіць да канца галерэі і так захоплены, што не заўважае як разьвязалася завязка на ягонай рускай шапцы і махнатыя вушы баўтаюцца па дзіцячаму сьмешна.



Харкаў. Магазын ХЦРК № 36 па вул. Сьвярдлова, які абслугоўваецца выключна жанчынамі.



Сталінград. Пры чырвоным кутку дома колгасьніка арганізаваны курсы ліквідацыі няпісьменнасьці. На зд. калгасьніцы на занятках па матэматыцы.



Вызначэньне чыстаты насеньня лубіну на цэнтральна-насеннай станцыі БССР у Менску.

Цодзік Андрэй мае ў сям'і дзьве працаздольныя адзінкі. Ён мае 646 працадзён.

Яго перапыняе ў гаворцы Варвашэня Сымон. Варвашэня мае ў сям'і чатыры працаздольныя адзінкі, ён выпрацаваў за год 1.041 дзень.

— Ня праўда, што галава табе не баліць,—кажа Варвашэня. Галава павінна твая клапаціцца, па мойму, ня толькі пра тое, што ты зарабіў, а і пра тое, што ёсьць у калгасе. Мы павінны наглядаць, па-мойму, адзін за другім. І адзін другому ўказваць, калі што ня так. Вось—што, калі і калгас будзе багацейшы, тады і мы будзем багацейшымі.

— Ня быў-бы ты серадняк,—жартуе Мацэля Аляксей, калгасны бухгальтар, чалавек з вечным клопатам,—яму каб усё багацейшаму быць, каб усё багацець.

— А што-ж бо,—супярэчыць Варвашэня, а чаму-ж і ня быць багацейшаму. А хіба ты супроць запасу?—упікае Сымон Аляксею, і дадае:—запас, як кажуць, бяды ня чыніць, а ўсякі запас—гэта не багацтва. А гэта, нераўнуючы, як кола тое запасное, у аўтамабілю.

Мужчыны сьмяюцца з Варвашэнявага параўнаньня. Але яно ім да спадобы, бо ніхто не знаходзіць больш слоў, каб супярэчыць.

У калгасе „Карла Маркса" ёсьць шмат актывістак—жанчын. Ёсьць жанчыны, што выпрацавалі больш чым некаторыя мужчыны. Да прыкладу: Пуцейка Маланьня мае на адну сябе 423 дні, Паніч Марыля выпрацавала 460 дзён, Ленько Алена—409 працадзён.

Але ёсьць калгасьнікі і з малым лікам працадзён. Серада Кастусь да прыкладу выпрацаваў на сваю сям'ю з 6 чалавек, з 2-мя працаздольнымі—272 дні; Шкадарэвіч Міхась—з такой самай сілай сям'і—мае 258 дзён.

Як-жа будуць жыць такія калгасьнікі? А калі на гэта былі падставы, што больш не маглі выпрацаваць яны (мо' хворыя былі яны)—ім будзе дана дапамога з запаснога фонду. Калі-ж яны лянаваліся—хай так і пражываюць, як працавалі.

Як кажа Бруёк Пархвен:

— Цяпер, нічавусенькі... Цяпер якая работа, такая і зарплата. Будзеш старацца, будзеш і мець. А то, як раней гэта было, калі пароўну дзялілі, разбазырвалі былі людзі. Добра-ж калі які рабоў на сумленьне. А каторы абы дзень прагалялёкаць, бо ведаў, што ўсёроўна яго частка не прападзе. А цяпер—можа і прапасьці. Вось што.

І калі глядзіш на калгас „Карла Маркса", адчуваеш: ёсьць у ім людзі, у якіх адна дбайнасьць, адна адданасьць калгаснай справе. Пройдзеце вы па калгасных хлявох, па аборах і вы пабачыце: каровы стаяць у цёплым дагледжаным хляве. Іх—170 штук (калгас мае ўхіл малочна таварны, у 1932 г. калгас здаў дзяржаве 63 тоны малака). Калгас мае 45 шт. леташняга маладн ка, гэта ня лічачы тых 20 штук, што здаў калгас фэрме. Авечак у калгасе—91 шт., сьвіней—79. І кожны калгасьнік мае сваю карову, сваё сьвінчо.

— Харчамі жывёла забясьпечана. Вельмі-ж добры сілас удаўся,—кажа старшыня калгасу Сарагавец.

І вы бачыце дзьве вялікія сіласныя вежы. Адна ўжо распакавана і кажа пра якасьць сіласу.

— Толькі з дровамі не-кавата,—кажа Сарагавец. Няхватка дроў. Мы жывем як на Украіне. У нас, як у тым стэпу. Лес вельмі-ж далёка.

А зямля ў калгасе ня дрэнная. Гэктар дае 7,5 *цнт* збожжа. Гэктар бульбы дае 70 *цнт.*

— Мала, усё-ж такі сілы,—кажа Сянюк Міхась.—Каб сілы рабочай у нас хапала... ды мы-б яшчэ ня тое... Але-ж вельмі была вялікая сьпешка. Часамі, што кольвек і ня так дагледжана было. Вось—віхар вялікі быў, прайшоў. Будынкаў шмат папсаваў, шмат рабочых рук пайшло на папраўку будынкаў. А так—каб усё, гэта ды на адно поле—дык работа яшчэ спраўней пашла-б.

— Затое дзён па многу прыпала,—папраўляе Кундыш Іван калі мала людзей было...

А старшыня калгасу дадае:

— З меншай сілаю—меншы прыбытак, хоць сабе і дзён шмат. Так што, брат, тое на тое выходзіць. І ня трэба баяцца, што у цябе нехта дні твае адбярэ. Твае застанецца табе, па тваёй заслузе.




Сталінград. Ударніца-токар тав. Рабава выканала перад Кастрычнікам месячны плян на 129 проц. Тав. Рабава ў XV гадавіну перадана з камсамолу ў партыю

# ПАДРЫХТОЎКУ ДА ВЯСНОВАЙ СЯЎБЫ



КУРСЫ ПА ПАДРЫХТОЎЦЫ ТРАКТАРЫСТАЎ— УКАМПЛЕКТУЕМ ЛЕПШЫМІ ЎДАРНІКАМІ

Своечасовае і поўнае выкананьне пасеўных плянаў падвышае жыцьцёвы ўзровень калгасьніка, паляпшае яго дабрабыт.

Высокая прадукцыйнасьць працы ў правядзеньні вясновай сяўбы павялічвае норму выпрацоўкі калгасьніка на кожны працадзень.



СЕЯЦЬ ТОЛЬКІ АЧЫШЧАН... НЕМ, ТЫМ САМЫМ ПАП... ПУСТАЗЕЛЬЛЕМ І ПАДВЫС...



**Своечасовая засыпка насенных фондаў — моцны вагар у забесьпячэньні поўнага засеву пасеўнай плошчы**

Ачышчаючы свае рады ад апартуністаў і гніла-лібэральных элемэнтаў, сакрушаючы супраціўленьне кляса вага ворага, парт'ячэйкі МТС пав'нны забясьпечыць сканчэньне рамонту трактароў у вызначаны партыяй тэрмін.



наньне
ьцёвы
е яго

ацы ў
павя-
сьніка

# ...ЎБЫ НА ПОЎНЫ ХОД







...ЫШЧАНЬ... ВЫСОКАГАТУНКОВЫМ НАСЕНЬ-
...ІМ ПАЛ... ...ДЗІМ ЗАСЬМЕЧАНЬНЕ ПАЛЁЎ
...ПАДВЫ... УРАДЖАЙНАСЬЦЬ.

> Мы павінны цяпер дабіцца таго, каб зрабіць яшчэ адзін крок наперад: дапамагчы ўсім калгасьнікам і былым беднякам, і былым серадняком, падняцца да ўзроўню заможных. Гэтага можна дабіцца, гэтага мы павінны дабіцца ва што-б там ні стала.
>
> **СТАЛІН**

Упартае змаганьне за тэхнічную пісьменнасьць і палітычную ўстойлівасьць трактарыстаў зьяўляецца неабходнай прад'умовай для выкананьня пасеўных плянаў



Варта паглядзець на кіно-фабрыцы ўпартую работу актора, каб пацьвердзіць сказанае. І рэжысэр працуе з акторам. Ён літаральна імкнецца ўзяць у актора ўсё, што ён можа даць сваёю ігрою гледачу. Часамі гэта ўдаецца больш, часамі менш. Здольнасьць актора адыгрывае тут вялікую ролю.

Сьледам за рэжысэрам, за акторамі сцэнарый ідзе да мастака. Мастак павінен даць карціне дэкарацыі, даць натуру, даць вопраткі.

Вёскі, машыны, дамы, пакоі, габ'нэты, пазыцыі, акопы, вуліцы, сады—работа мастака.

І тут пачынаецца новы працэс работы. Пачынаецца працэс здымкі.

Наладжваюцца экспэдыцыі на заводы, на фабрыкі, у калгасы, у сады, у лясы, у горы, у балоты, будуюцца па праектах мастакоў дэкарацыі ў павільёнах фабрыкі...

Многае зараз залежыць ад апэратара, ад вока кіноапарату, якое любіць сонца, якое любіць пражэктары, якое любіць сьвятло. Апэратар—інжын р сьвятла. Ён выбірае пазыцыі, адкуль трэба будзе здымаць паасобныя кадры, кавалкі будучых эпізодаў, з якіх складаецца на мантажным стале кіно-карціна, ён штукар, валодае ценямі, ён адказвае за якасьць кінозапісу. Многім дапамагае апэратар рэжысэру і таму рэжысэр заўсёды шукае сабе апэратара-інжынэра сваёй справы.

Здымкі аднае вялікае кіно-карціны працягваюцца прыблізна ад шасьці месяцаў да году. Брыгада па здымцы той ці іншай карціны - гэта маленькая фабрыка з сваімі інтарэсамі, з сваімі посьпехамі, сваімі паражэньнямі. І колькі трэба адданай працы ад работнікаў брыгады, каб сваю гадавую работу здаць дырэкцыі ў тэрмін, высокай якасьці...

Але гэта яшчэ ня ўсё.

У гукавых кіно-карцінах, якія да рэчы будзе сказаць, асвоены Беларускай кіно-фабрыкай у 1932 годзе, працуюць кампазытары, музыкі, гукаапэратары, дыктары, піратэхнікі.

І гэтага мала.

Да работы над кіно-карцінай у якасьці кансультантаў, адпаведна тэме працуюць прафэсары, інжынэры, партыйныя работнікі, аграномы, удзельнікі грамадзянскай вайны, пілёты і г. д. і г. д.

Апошні рэйс карціны. Пасьля нязьлічонай колькасьці праглядаў паасобных кадраў рэжысэрам, пасьля пераздымак, карціна трапляе на мантажны стол. З кадраў, запісаных на кіноплёнцы, пераблытаных у сваім парадку, у часе здымкі, рэжысэр складае эпізоды, а з эпізодаў складаецца фільм.

Сталяры, плотнікі, маляры, работнікі лябараторыі, асьвятлінцелі—гэта людзі, якіх вы ня бачыце ў карціне, але ад якасьці работы якіх залежыць многае.

І зроблены пакуль што ўсяго толькі адзін экзэмпляр кіно-карціны. Але як гэта так—глядач бачыць адну і тую-ж карціну ў розных кіно-тэатрах, у розных гарадох, розных рэспубліках?

Пасьля здачы брыгадай карціны дырэкцыі, карціна размнажаецца ў некалькі дзесяткаў экзэмпляраў на капіравальнай фабрыцы і толькі цяпер паступае ў пракат...

Тады глядач бачыць яе ў кіно-тэатрах, на экране.

---

Беларуская кіно-фабрыка ў 1932 г. выканала свой вытворчы плян на 109 проц. У 1932 годзе асвоены гукавыя карціны. Але яшчэ да гэтага часу, фабрыка ня дала высокаяснай мастацкай фільмы, якая-б прымушала гледача цешыцца перамогамі на фронце сацыялістычнага будаўніцтва БССР, на фронце барацьбы за чалавека нашай эпохі, якая-б запальвала, натхняла працоўных БССР да новых перамог.

Цэнтральны Камітэт КП(б)Б у сваёй пастанове аб дзейнасьці кіно-фабрыкі патрабаваў сапраўднага бальшавіцкага змаганьня за стварэньне беларускай савецкай кінематографіі.

Кінофабрыка знаходзіцца ў пэрыядзе рашучага павароту. Над стварэньнем сцэнарыяў цяпер працуюць пісьменьнікі Р. Кобец, П. Броўка, К. Чорны, М. Лынькоў і інш. Калектыў работнікаў фабрыкі ўключыўся ў барацьбу за аўладаньне беларускай культурай.

Ёсьць усе падставы, каб сказаць, што першы год другой пяцігодкі—дасьць гледачу шэраг буйных мастацкіх кіно-карцін вытворчасьці фабрыкі „Савецкая Беларусь".

---

У Ленінградзе па канале Грыбаедава вы можаце прачытаць невялічкую скромную шыльду—„Беларуская кіно-фабрыка „Савецкая Беларусь". Гэта ня звычайная фабрыка. Па віду свае прадукцыі—яна адзіная ў БССР. Яе продукцыя—мастацкае адлюстраваньне ідэй нашай вялікай эпохі, з мэтай камуністычнага выхаваньня і перавыхаваньня самых шырокіх працоўных мас. Таму і клопаты аб ёй, таму дапамога і ёй павінны быць з боку перадавых рабочых, калгасьнікаў, пісьменьнікаў, кампазытараў, мастакоў, прэсы, навуковых інстытуцый БССР.

г. Ленінград
2-II—33 г.

## ДЭКАДНІК БЕЛАРУСКАЙ АКАДЭМІІ НАВУК У МАСКВЕ





Камуністычная Акадэмія пры ЦВК СССР разам з БАН арганізавалі ў Маскве дэкаднік БАН (з 1|II па 10|II-33 г.). У праграме работ дэкадніка стаялі даклады: прэзыдэнта БАН тав. Горына на тэму „Навукова-дасьледчая работа ў БССР і яе чарговая задача", тав. Вальфсона—„Разьвіцьцё філёзофскай думкі ў БССР", праф. Піотуховіча пра савецкую літаратуру ў БССР, тав. Мятла—„Эканамічны крызіс і рэвалюцыйны рух у Заходняй Беларусі", акад. Панкевіча, праф. Віткоўскага і тав. Гершэнбаўма аб нацыянальна-культурным будаўніцтве. На зд. справа налева: акад. Вальфсон і тав. Бурсцін, асобна: тав. Горын на трыбуне.



ІЗІ ХАРЫК

# Менскія балоты

## УРЫВАК З ПАЭМЫ

Сталёвы выдадзен загад
З цьвярдыняй слоў дамаскай шаблі:
Туды й назад, туды й назад
Вам гандляры, ня трэ' сьпяшацца...

Кіруй пільней зьнямелы зірк:
Базар пакрыўся тулем ржавым.
Тут кожны дзень—як бальшавік,
І кожны бальшавік—таварыш...

А мы ад нэндзы, болю, ран,
З ціхіх завулкаў і бязьлюдзьдзя—
Мы вас, як зношаны рызман,
Растопчам – і забудзем...

———

І добра так, і цёпла так
У цяжкіх ботах на гардзінах,
І добра так,
І цёпла так
Трывожыць цяжкім ботам зал...
І кожны вечар тут сьпяваць бадзёрую „дубінушку",
І кожны дзень, і кожну ноч—Інтэрнацыянал.

І мягкі дол, і высі стрэх
Цяпер частуюць нас прытулам,
І хто ахвочы, каму трэ',
І мягкі дол, і высі стрэх,—
І цэлы сьвет для нас прытулак.

———

А калі забратаўся, расьпяваўся сьвет
Песьняй мільённаю, тысячным хоралам,
Пашоў ламаць напружаны дэкрэт
Да балотаў Менскіх аж ад гор Урала...

Кожны з нас—з балючаю трывогай,
У каго суровасьць працы ў жыцьці закон,—
— Будзь гатовы,
— Будзь гатовы,
— Будзь гатовы,
— І рыхтуйся быць абраным ў Саўнарком!

Бо адзінка—ўжо цяперака не адзінка,
Кожны голаў—голаў тысячы галоў;
Зараз мусім мы ўсё разам, нясупынна—
— З масамі...
— У масы!
— Пералом!

———

Хутаецца горад чорным крэпам сьмерці,
Зацямнёны шыбы ценем ваканіц...
Стукаецца сполах, гушкаецца ў сэрцы,
Нахіліўся горад з енкам страху ніц.

Цэлы дзень змагаўся наш цягнік апошні,
Адышоўшыся ўзморы за Смаленскам...
страх
Аплятае горад чуткамі трывожнымі:
Дык чый-ж цяпер мы?
У чыіх руках?

Заўтра можа—зноў нахлынуць вораг,
Зноўку „хлопы", „псякрэў", „жыд"...
Сполах, сполах, палахлівы сполах,
Горад страх ня зможа пераджыць...

———

І выслаў Менск цягнік з плячыстымі хлапцамі,
Між імі Піня полымем гарэў...

Ніхто ім урачыста не махаў рукамі,
І не бадзёрыў гучны марш ці сьпеў.

А неспакой на фронце там вялікі.—
Над Менскам неба можа расьсячы...
А калі трэба – дык бяз енку, крыку,
Грудзі і галовы—пад мячы...

———

Ня знае Піня колькі раз ужо
Ён у сядле сон цяжкі абнімае,
Праз вецер, дым—у зморы, у дажджах,
Праз вецер,
дым
І золкія туманы.

Цішэе ў полі. Звоняць капыты.
І шпаркі конь не гарачыцца ўвечар...
Ані харчоў няма, і шлях наўкол пусты,—
Каб дзе хоць вёсачка была ў пустэчы.

Бязьлюдны вёскі ў самотнасьці далін
І хутар спалены вартуе шлях там,
Хлопцы ўсе з рашучасьцю пашлі
З куляй,—
На паноў-палякаў, шляхту.

Да хаты нелзе ён пад'едзе ў цішыні,
У дзьверы зморана пастукае, бяз звону:
— Гэй, браток, таварыш, адчыні,—
— Свой—чырвоны...

———

Не касматыя асілкі, не героі
Зубы сьцяўшы, мысьляць пра сабе!..
Маладая моладзь пры замоўкшым строем
Зморана калышацца ў сядле.

Якая ціш... А ноч здушона летам,
Сасной і мёдам, пахам і смалой...
Хто знае... можа сьмерць у лесе гэтым...
Варшава—даль!
Эх, браце мой!

Засьпяваем, хай парвуцца цені!
Якая ціш... Спускаецца цяжар...
Гарэзны сьвіст і крык, падкоў бражджэньне
Пужаюць даль, губляюць шляхам жар...

Гэй, хай пачуе, хай прымчыцца вораг
І мерыцца штыхом, аб штых...
А ноч узброена, трывогай ноч гаворыць,
І даль дрыготкая—адзін згусьцелы крык...

. . . . . . . . . . . . . . . .

———

У лясох беларускіх са смольнымі гальлямі
Хто будзе на варце адно?
— Сёньня тут сэрцы абнімуцца з полымем,
— Сёньня—у змрочную ноч...

Цішэй, дарагія, спакойней, стамлёныя,
Каму бараніць цішыню?
З вамі – на ты—загавораць сягоньня
строі вятроў і агню.

Хто сёньня спаткнецца—на стрэльбу той схіне
Свой голаў—загаслы прамень...
Ціхія, пыльныя, вулкі глухія,
Крэўна-сваяцкі наш Менск.

З яўрэйскай мовы пераклаў
Ізраіль Плаўнік.

АНДРЭЙ УШАКОЎ

# ФОТО-МОЛАТ

*(НАРЫС)*

Жнівеньская раніца іскрыстая, як чыгун у вагранцы парад ліцьцём. Сонца вялікім растопленым комам узьнялося з-за вугальнага складу і глянула ў шырокае вакно дэпо, абліўшы вадкай медзьдзю прыменьняў чорны мазутны паравоз. Праз некаторы час да варштату, які стаяў супроць гэтага паравозу, падышоў брыгадзір экіпажнай брыгады. Яго паўкругам ахінулі сьлёсары і чакалі разьмеркаваньня на працу. Брыгадзір выняў з кішэні парусінавай спэцоўкі з запэцканымі краямі кніжку „службовых запісак“, зірнуў праз мурзатыя шыбы вакна на сонца і шырока ўсьміхнуўся. Сонца з-за ваканіцы лінула струмень ясных праменьняў і палова ягонага твару заіскрылася ў сонечных пералівах. Сівы вус заблішчэў, як залаты. Ад гэтага палова твару выглядала іскрыстай, сьвятошнай, але двaістасьць фарбаў стушоўвалася сухасьцю погляду і твар рабіўся крышку сьмешным. Паклаўшы кніжку на ціскі, каб не замазуціць, разьмяркоўваў сьлесараў па паравозах. Па звычцы сьлініў просты аловак і непаслухмянымі пальцамі пісаў, выводзячы нястатныя літары, не дапісваючы да канца прозьвішча. Ня гледзячы вачыма на брыгаднікаў, разважаў:

Сёньня далі нам адзін паравоз лішні, давядзецца, мальцы, націскаць. Дыдзько і я па адным на паравоз, а малодшыя—па два.

Ня відно-ж яго—азваўся голас збоку.

— І Новікава...

— Значыць ня прышлі?.. Брыгадзір у зьдзіўленьні ўзьняў галаву, выцягнуў шыю, быццам перад ім стаяў вялікі натоўп, а ён хоча праз яго наглядзець на заднія рады. Потым прыняў ранейшую паставу і, больш спакойна абвёў прыстутных вачыма.

— Можа яшчэ прыдуць?..—заспакоівалі яго. Але ведаў брыгадзір: учора была палучка, а сёньня будзе прагул. Трывога лёгкай млявасьцю лягла на сэрца. Твар цяпер у цяні здаваўся пакрытым тонкім пластом пылу.

— Нічога не паробіш. Трэба-ж пачынаць.

— Ня прыдуць, а ты выпінайся адзін! Пасьля працы надвячоркам абяцаў хлопцам прыйсьці на лодачную станцыю. У ваччу паўстала: сінія хвалі Віцьбы. Надвячорні змрок. Пaабапал берагоў рэдкія кусты, луг і сьпелае жыта. У далечы чутно зьвініць гітара, зьвініць і зьліваецца ў адну мэлёдыю з звонкімі, як рэсорная сталь, галасамі дзяўчат... Ня прыйдзе Дыдзько і Новікаў — майстра загадае працаваць звышурочна. І ўжо з канавы крыкнуў брыгадзіру:

— Пётра Сяргеевіч, схадзілі-б у гаспадарчую брыгаду, няхай сьлесароў даюць. Адны ня ўправімся. Сорамна будзе—наша-ж брыгада ўдарная. Брыгадзір палічыў гэтыя словы за шчырую параду:

— А ўжо-ж давядзецца гэтак зрабіць

Толік стары Астапыч указаў:

— Калі ўдарная, дык во і працуй. Няма чаго на сьпіне іншых выяжджаць. От давай-жа націсьнем ды выпусьцім з рамонту ў тэрмін усе паравозы без дапамогі іншых...

Толькі падазрона паглядзеў на Астапыча, бы той адгадаў яго думы. Апраўдаўся:

— На пуп лішняга ня возьмеш. І памаўчаўшы дадаў, стараючыся голасу надаць жартоўны тон:

— Баюся багатымі будзем...

— А чаго там — больш папрацуеш і манэты заплоцюць больш!..

Астапычавы словы ўчуў шырокаплечы хлапец:

— Дзядзька Астапыч, а давайце ўзапраўды па-штурмавому возьмемся, ды і адрамантуем усе паравозы! Звышурочна застанемся.

Апошнія словы як варам ашпарылі Толіка:

— Заставайся, калі не напрацаваўся! Працавіты які. Звышурочна цябе ў хамут запрэгчы-б вазы вазіць, ці халодныя паравозы ў дэпо закачваць замест кукушкі... Ці даўно ты яшчэ лапці за сэмафорам кінуў? А цяпер усюды нос свой сунеш. Сядзеў-бы ты лепш у бацькі на печцы ды еў бліны!..

Вясковы хлопец пакрыўдзіўся і перад Астапычам як-бы апраўдваўся:

— Чаго ён такі? Я-ж нічога дрэннага не казаў. Гэта-ж праўда. Па-штурмоваму-б узяцца за справу...

* * *

Гудзеў гудок прастуджаным басам. Густы гул падымаўся ўгору і адтуль сыпаўся па бляшаны дах дэпо, сьцяліўся паземным ветрам, урываўся ў рашчыненыя шырокія вароты, праз пабітыя шыбы вакон. Тады павольна сьцішаўся вархальны стук пнеўматычных малаткоў кацельшчыкаў. Кампрэйсэр зморaным чалавекам адсопваўся, чмыхаў дымам спаленага бэнзыну і змаўкаў.

Кульгавы табельшчык узьняў угору сятчатую заслону табэлю. Рабочыя згрудзіліся, навыперадкі, працягваючы рукі праз бар'ер, сьпешна здымалі маркі. Гул гудка напомніў пра абед. У носе заказытала пахам гарачай капусты. На хаду выціраючы „канцамі“, пакляй замазучаныя рукі, ішлі ў сталоўку.

Экіпажная брыгада працавала і ў час перапынку, было вырашана: каб ня траціць шмат часу на абед — абедаць пасьля ўсіх, калі ў сталоўцы зробіцца вальней.

Брыгадзір падбіваў буксы. Браў тугі лямец, мачыў у масла зьмешнае з нафтай і шчыльна закладваў у каробку буксы. Падбіўшы, узьняў угору, каб наклаўшы пад вось ската зашрубаваць. Букса цяжкая і ніяк аднаму не паставіць на месца.

— Хадзі падтрымай!—паклікаў брыгадзір Толіка з суседняга паравозу. Той, не сьпяшаючыся, паклаў ключы і палез у канаву. Букса перакруцілася бокам і ледзь не звалілася далоў.

— Хоць-бы не адбіць заліўку бабіту?!—непакоіць думка брыгадзіра — і ня ўтрымаўшы, разьліваючы на грудзі спэцоўкі мазуту, паклаў яе на край канавы.

Раптоўка выбухнула злосьць:

— Ну ты, хутчэй чухайся! Вагаром трэба варочаць, каб скрануць з месца!..

Толік прысьпеўшы хаду.

— Падымай от цяпер! Позьней прышоў-бы!..

Узнэрваваны, упарадкоўваючы буксу, зірнуў між сьпіц колаў — выціраючы рукі, сьлесар, якога ўзялі з гаспадарчай брыгады, ішоў да выхаду. Не паслухаў пастановы брыгады, кінуў працу—і на абед.

— Вунь непрацаваў... дапамог... — брыгадзір безнадзейна махнуў рукою.

— Я так і ведаў,—як-бы апраўдаючыся перад самім сабою—крыху памаўчаўшы, дадаў да раней сказанага.

Ля варштату прайшоў заг. культсэктару мясцкому — Шaбоха. Учуў гаворку:

— Здароў, „бацька“! Усё ваюеш з паравозамі? Адпачні, старына. Хадзем паабедаем—спарней рамонт пойдзе!..

— Паабедаеш вось,—вытыркнуўшы галаву з канавы і паказаў на паравоз, прагаварыў стары. Потым расказаў пра прагулы. Выліў накіпеўшую крыўду на моладзь:—Ім што,—не баліць сэрца за паравоз... фю—іць і на абед. Працаваць ня хочуць. Грошы дарма-б толькі бралі... Ня бачылі горшага, дык ім і гэта дрэнна. Не! А папрацаваў-бы столькі, каб ніводнай валасінкі на галаве не засталося.

Шабоха перапыніў.

— „Бацька“, дык кажаш два прагулы? Хо-хо! — заліўся сьмехам, аж прысеў. — Кажаш два прагулы ў адзін дзень?. З палучкі?

— Што ён звар'яцеў, ці што? Кажы яму, а ён усьмех. Пакрыўдзіўся і, ня стрымаўшы, суха ўпікнуў:

— Плакаць, таварыш, трэба, а не рагатаць?

— А-а, ты вось аб чым. Ня крыўдуй. Кожнаму сваё. Я вось прозьвішчы іх запішу. Справу зробім...

— Э-э, тут ня гэта трэба! Мясцкомаўцы... балбатня адна. Прывыклі вымовы даваць.

Ужо адыходзячы, не паварачваючы галавы, голасна да брыгадзіра крыкнуў:

— Мы ім загрывак намылім!

Тады брыгадзір супакоіўся.

У гэты дзень брыгада працавала чатыры гадзіны звышурочна, 5 паравозаў вышлі з рамонту ў тэрмін.

* * *

Праз тры дні пасьля гэтага здарэньня, зайшоўшы ў мясцком можна было ўбачыць: за нявысокім сталом сакратара—сядзіць сьлёсар Мачанят—клюбны мастак. Перад ім ляжыць мэтравы ліст шкла. Чорнай тушшу з правага боку выведзена:

„Лепшыя ўдарнікі вытворчасьці. Змагары за сацыялістычны транспарт“, а на другой палове:

„Ганьба прагульшчыкам, падрыўшчыкам сацтранспарту“. Пад надпісам намаляваны дуб (Транспарт). Сьвіньня падрывае яго карані. У сярэдзіне сьвіньні месца для двух партрэтаў (Дыдзько і Новікава). Побач малюнак: „паравоз наскочыў на паравоз“ (шкоднік машыніст Дзерабін), лічбы здарэньняў і паўторнасьцяй паравознага рамонту. Шабоха, за „сьвіньню



Жэня Ксыдзіяс (акт. А. Трэппель)



Жанна (акт. Т. Алескер)



Броцкі (акт. К. Рутштэйн)

# Аб „Замежнай колегіі“ ў ЯДТ

М. Модэль

Яўрэйскі Дзяржаўны Тэатр да 15-годзьдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі паставіў перакладаную п'есу Льва Славіна „Замежную калегію“.

Трагікамэдыя Славіна напісана на тэму аб тым, як у выніку ўдалай дзейнасьці групы падпольных бальшавікоў Адэсы, вылучанай пад назвай „Замежная колегія“ абкомам партыі для работы сярод войск францускага дэсанту ў 1919 годзе, францускае войска страчвае баяздольнасьць і адклікаецца камандваньнем ва Францыю. „Замежная колегія“ гіне ад рук францускіх інтэрвэнтаў.

Вось галоўная сюжэтная лінія п'есы. Іншыя тэмы ў гэтым драматургічным творы ня маюць непасрэднага прызначэньня штурхаць наперад інтрыгу.

Драматургічны твор тав. Славіна напісаны ў стыле рэвалюцыйнага рамантызму. Галоўныя зрывы ў п'есы ідуць па лініі перагрузкі дэтэктыўнымі элемэнтамі і залішняга падкрэсьліваньня адэскай экзотыкі і калёрыту.

Ідэйная задача, вырашэньне якой паставіў перад сабой драматург вызначаецца наступным эпіграфам, узятым з твораў Леніна: „... Ёсьць дзьве нацыі ў кожнай сучаснай нацыі—працоўныя і эксплёататары—вось з каго складаецца нацыя“.

Аўтар спачатку і да канца раскрывае ідэйную лінію, якая вызначана ў эпіграфу. Галоўны герой п'есы бальшавік-падпольшчык Броцкі растлумачвае францускім зуавам сутнасьць расійскай рэвалюцыі і прычыну інтэрвэнцыі (сцэнка ў казарме ў першым акце): „Дзесяць французаў уладалі гэтымі кавалкамі вугля (гутарка ідзе пра Данбас). Гэта быў ня ты, Барбару, і ня ты Марсіяль, і ня я. І ніхто з вас, якія тут стаяць. Гэта былі зусім іншыя французы. Настолькі іншыя, што здаецца вы і яны дзьве розных нацыі. Там былі і барон Рэно і барон Камлер. Там былі тры памешчыкі і пяць банкіраў. Армія шахцёраў з ранку да вечару капалася пад зямлёй, каб жывот акцыянэраў мог жорці омары і разважаць аб дэмакратыі. Пакуль ім гэта надаела. І яны скінулі з сябе“...

Зуав Сэлестэн, які прыехаў з інтэрвэнцыйнай экспэдыцыяй, пры растлумачэньні яму Броцкім сутнасьці расійскай рэвалюцыі, заяўляе як-бы зварачаючыся да Расіі: „У вас рэвалюцыя? На здароўе. Сэлестэн тут ня прычым“.

Пасьля трохмесячнага прабываньня пад уплывам падпольнага рэвалюцыйнага руху, ён у фінальнай сцэне ўжо зварачаецца да сваіх таварышоў, якія ад'яжджаюць у Францыю, з наступнай прамовай; „вы ведалі Сэлестэна, вясёлага хлопца... Я стаў камуністым... Будзем змагацца за рэвалюцыю... Мы ўжо ведаем, што ёсьць дзьве Францыі“.

Такім чынам, аўтар, правёўшы частку сваіх асноўных герояў праз шэраг драматычных і камэдыйных калізій завяршае п'есу ідэяй, якая высуната ў эпіграфу. У гэтым пэўная заслуга аўтара.

Ідэі, якія кінуў падпольшчык Броцкі разам з Жаннай у казармы сярод Зуаваў, паўстаюць апранутыя ў цела і кроў клясавых канфліктаў пры першай сустрэчы разьдзелу лейтэнанта Бэнуа з рабочымі на судабудаўнічай вэрфі Ксыдзіяс. У часе забастоўкі, сувязі, якія ўстаноўлены Броцкім і Жаннай з францускімі зуавамі, яшчэ больш узмацняюцца.

Сцэна ў кафэ „Дарданэлы“, якая заканчваецца трагічна для „Замежнай колегіі“ дзякуючы здрадзе Зуава Марсіяля, узмацняе нарастаньне драматычных канфліктаў. І нарэшце непасрэднае спатканьне з чырвонымі партызанамі канчаткова ўскрывае сутнасьць вэрсальскага міру для францускіх працоўных, якія апрануты ў салдацкія вопраткі. Здраднік Марсіяль і лейтэнант Бэнуа дабіты салдатамі. Пераможцы пад Вэрдэнам сьпешна адклікаюць свае войска ўва Францыю.

Да станоўчых бакоў твору Славіна трэба аднесьці таксама яго імкненьні паказаць кіруючую ролю партыі ў падпольным рэвалюцыйным руху праз жывых дзейнічаючых людзей—Арлоўская, Броцкі і інш.

Асноўным недахопам п'есы зьяўляецца вялікая перагрузка дэтэктыўнымі элемэнтамі. Сюды адносіцца здарэньне з анархістым Фількай і яго бандай. Філька - не анархіст, а звычайны бандыт. Ніякіх асаблівых ідэй у Фількі і яго банды няма. Аб Бакуніну, Прудону і дробна-буржуазных рэвалюцыянэрах ён толькі чуў. Філька крымінальнік-рэцыдывіст, узломшчык, какаініст. Яго сябры—Імерцак і Такарчук таксама тыповыя кішэньнікі і забойцы.

Аўтар пайшоў па памылковаму шляху, прабуючы крымінальнай інтрыгай узьняць цікавасьць п'есы.

У трагікамэдыі зьяўляецца нерэальнымі шматлікія трансформацыі Броцкага. Мішэль Броцкі ўхітраецца быць адначасова кіраўніком замежнай калегіі, сапёрам і вартавым.

Авантурна-дэтэктыўныя прыгоды адбываюцца і з камсамолкай Санькай. Пачынаючы з яе наіўна-распрацаванага пляну ўзрыву францускага штабу і канчаючы іншымі нязвычайнымі гісторыямі, якія яна перажывае (здарэньні ў аптэцы, удзел у абрабаваньні банка Кадзіяс),—ад усяго гэтага чуецца пах фантастыкі і пінкэртонаўшчыны.

Неперакандальна пабудавана сцэнка ў казарме зуаваў. Апрача зуава Жува, які настроены рэвалюцыйна, усе іншыя „шчырыя, вясёлыя, парыскія хлопцы“, ідэалы якіх віно, дзяўчынкі і цудоўнае неба парыскай радзімы. Узьнікае пытаньне, як гэтую вясёласьць і бесклапатлівасьць увязаць з тым, што гэтыя людзі толькі што вярнуліся з крывапралітных боек з-пад Вардэна, стомленыя і змораныя, аб чым вельмі нядвухсэнсоўна гаворыць Жув.

Трафарэтнымі і ў шэрагу выпадкаў зусім няправільнымі зьяўляюцца сытуацыі, якія адбываюцца з сэнэгальцам Алі. Гэтыя кавалкі п'есы і вобраз Алі нагадваюць па замыслу „Бронецягнік“—Усевалода Іванова. Неперакальным зьяўляецца „прапагандаваньне“ яго Броцкім.

Элемэнты спрашчэнства і схэматызму можна прасачыць і на шэрагу іншых прыкладаў. На верфі мадам Ксыдзіяс удзельнік замежнай калегіі, француженка Жанна Барб'е, спрабуе праз Жува ўстанавіць сувязь з атрадам францускіх войск, якія прышлі ахоўваць прадпрыемства ад забастоўшчыкаў. Папрасіўшы ў Жува цыгарку для француженкі, Жанна пытае: „Жув, адэскае неба напамінае наша?“

Жув адказвае: „Салдат бачыў шмат нябёс, але няма неба прыгажэй радзімы“. Жанна доўга ня думаючы адказвае: „У пралетарыяту няма радзімы“.

ГАРБУНОЎ ЦІМОХ

# ВЫНАХОДЦА

*(НАРЫС)*

Стары Барысаў, Нова-Барысаў—гэта адзін горад раскіданы на двух зьвілістых берагах ракі Бярэзіны. Павятовы Барысаў са сваім убоствам, з цёмрай, з сумам, з вузенькімі і сьмярдзючымі вуліцамі памёр. На яго месцы расьце і пашыраецца новы Барысаў, сацыялістычны горад.

Дзесяткі труб маячуць над Новым Барысавам. Па абодвых берагах ракі Бярэзіны раскінуліся фабрыкі, заводы. Большасьць прадпрыемстваў сканцэнтрыравана ў Нова-Барысаве.

У начы Нова-Барысаў уяўляе сабой відовішча вялікай і суровай прыгожасьці. Цішыня. Над горадам апушчана чорнае палотнішча-неба. У ціхіх і празрыстых водах Бярэзіны адлюстроўваюцца сілуэты фабрык, ды завоцаў, залоцяць раку агні электрыкі.

Новы гаспадар—пралетарыят перарадзіў горад. Залячыў Барысаў цяжкія раны, які нанесьлі яму драпежнікі белапольскія паны. Зараз Барысаў воляй Камуністычнай партыі зрабіўся моцным пралетарскім цэнтрам.

* * *

Вось пра аднаго новага чалавека—ударніка мы і хочам расказаць. Яго прозьвішча Сарокін. На гуце імя Домбаля яго завуць проста—Стась. Жыцьцяпіс таварыша Сарокіна багаты, але аб ім Сарокін расказвае вельмі каротка.

З маленства працаваў на заводзе. Памятаецца: па гасьцінцы цягнуліся абозы бежанцаў. Дымяцца на захадзе гарады, вёскі. Круціць завіруха. Гарцуюць на тлустых конях сынкі фабрыкантаў ды памешчыкаў. Гоняць яны перад сабой чараду п'яных чадам патрыётызму польскіх жаўнежаў.

— Даеш Маскву!

Ідуць белапольскія паны. Наступаюць.

Ня стрымаў тады Сарокін. Уступіў у рады камуністычнае партыі, добраахвотнікам пайшоў на фронт грамадзянскай вайны.

Імчалася чырвоная коньніца абараняць маладую краіну саветаў. У адказ белапольскім паном на „даёш Маскву" прагучэла магутнае „даеш панскую Варшаву"!

Шумелі гаі. Неслася чырвоная коньніца наперад. Уцякалі белапольскія паны.

20 раз таварыш Сарокін удзельнічаў у баёх. Праявіў сябе, як сапраўдны ударнік абароны сацыялістычнай бацькаўшчыны. Пасьля вайны—зноў за працу на заводзе.

* * *

Сарокін працуе на гуце імя Домбаля.

На высокім беразе Бярэзіны, недалёка ад так званай „француская багарэі", знаходзіцца гута.

Калісь-та тутка быў лес. А цяпер з кожным годам паміж кудлатых сасонак вырастаюць новыя і новыя карпусы, будынкі. Расьце і пашыраецца гута.

Перад гутай партыяй і ўрадам пастаўлена адказная задача—даваць краіне шкляныя вырабы высокай якасьці. Гэтыя вырабы ў сваёй большасьць ідуць на экспарт. Экспарт—валюта. Валюта—машыны. Машыны патрэбна для індустрыялізацыі краіны.

Пад кіраўніцтвам свайго партыйнага калектыву пралетары гуты Домбаля паказваюць ня дрэнныя прыклады і ўзоры барацьбы за выкананьне прамфінпляну.

Як не дамагаліся пралетары гуты Домбаля выканаць свой прамфінплян усё заставаліся невялікія „хвосьцікі". Асноўная прычына „хвосьцікаў"—брак. Брак псуе ўсю справу. Асабліва вялікі процант браку даюць шклянкі.

Зрабіўшы шклянку трэба яе яшчэ адшліфаваць. А вось гэта „шліфоўка" і дае многа браку. Шклянкі ламаюцца. Запраўка краёў шклянкі да гэтага часу на гутах рабілася самым прымітыўным спосабам. Шклянку абточвалі. Адна работніца можа адшліфаваць у зьмену 600—700 шлянак. З гэтай колькасьці брак складае 10—20 процантаў. Па ўсяму шліфовачнаму аддзяленьню гэта складае тысячы шклянак. Апрача гэтага пры такім спосабе шліфоўкі бываюць выпадкі параненьня рук.

На гуце былі праведзены сходы рабочых па пытаньню барацьбы з бракам. Па цахох гуты вывешаны шырокія палотнішчы з лёзунгамі.

— Абвесьцім вайну браку. Зьнішчым брак на нашай гуце.

— З'эканомім дзесяткі тысяч рублёў для сацыялістычнага будаўніцтва.

Моцна задумаліся ўдарнікі гуты над пытаньнем як зьнішчыць брак. Нарадзілася калектыўная думка: „вынайсьці машыну для шліфоўкі шклянак".

За рэалізацыю калектыўнай думкі ўзяўся таварыш Сарокін.

* * *

Дзень і ноч бесьперапынна працуе гута.

Адна зьмена рабочых зьмяняе другую. Чырвоньню заняўся ўсход. Зорнае неба высіцца над фабрычнымі трубамі. Дымяць трубы. Сьпіць рабочы пасёлак. Толькі ў адным доміку, недалёка ад гуты, у вокнах блішчыць аганёк. Сарокін нядаўна прышоў з работы. Адпрацаваў сваю зьмену, а цяпер сеў за свае чарцяжы. З галавы ня выходзіць назойлівая думка аб шліфавальнай машыне.

Золак заглядвае ў вокны Сарокіна. Акуратна грубай рукой выводзіць на ласкуце паперы лініі, кругі. Прымервае, вылічвае.

Пасьля многіх недаспаных начэй Сарокін зрабіў чарцяжы сваёй машыны.

Але чарцяжы—гэта яшчэ не машына.

Дырэкцыя гуты і парткалектыў горача падтрымалі ініцыятыву таварыша Сарокіна.

З дому Сарокін перанёс усю работу па вынаходзтву ў цэх гуты. З гэтага часу Сарокін дняваў і начаваў у цэху. Прагудзіць гудок. Адна зьмена з гуты, другая ў гуту. Вечар апусьціць сваё шэрае крысьсё. Гута заліваецца электрычным сьвятлом. Таварыш Сарокін возіцца каля сваёй машыны. Хто небудзь з рабочых гуты прыадчыне дзьверы ў каморку, дзе працуе Сарокін, ды зноў зачыне. Іншы падазронна паглядзіць, паціскае плячыма, дзівіцца:

— Дзівак.

— Звар'яцеў на сваёй машыне.

На гуце спрачаліся вакол ня існуючай яшчэ машыны. Адны жартавалі над вынаходзтвам Сарокіна, другія чакалі пэўных вынікаў

Так ішлі дні.

А рабочыя Скроцкі і Падгурскі едка высьмейвалі Сарокіна:

— Як справа, Стась, з тваёй „машынай".

— Дарэмна на тваю „машыну" страцілі тысячу рублёў...

Жонка Сарокіна, якая лепш за ўсіх яго ведала і тая ўсё часьцей пачала гаварыць:

— Ці выйдзе што з тваёй працы? Глядзі, не асаромся...

Але Сарокін добра верыў, што ён павінен вынайсьці шліфавальную машыну. І не адзін Сарокін верыў. Група ўдарнікаў мэханічнага цэху шчыра дапамагала Сарокіну ў яго рабоце.

Пасьля доўгіх нєзадач, пераробак урэшце шліфавальная машына была зроблена.

* * *

У адзін ясны дзень пасьля гудка на гуце загаманілі, заварушыліся.

— Сарокін вынайшоў шліфальвальную машыну.

— Аўтамат.

Радасьці ўдарнікаў ня было канца. Радавалася ўся група. Яшчэ-бы. Аутамат сыстэмы таварыша Сарокіна пазбавіў рабочых ад раненьня рук, зусім ліквідаваў ломку шклянак, даваў высокую якасьць шклянак. Адзін аўтамат адшліфоўвае звыш 300 шклянак у адну зьмену. Адна работніца можа працаваць на двух аўтамашынах і замест 600 шклянак адшліфоўваць аўтаматам 6000. Аўтамат дае тысячы рублёў эканоміі.

Таварышу Сарокіну пацiскалі рукі. Дзякавалі за вынаходзтва. Прыціхлі і тыя, хто раней сьмяяўся над Сарокіным. Нарадзілася калектыўная думка аб арганізацыі брыгады па вырабу аўтаматаў сыстэмы таварыша Сарокіна.

Дырэктар гуты таварыш Шульгін і загадчык бюро вынаходзтва таварыш Фрэйт падтрымалі сьмелую ініцыятыву ўдарнікаў. Арганізавалася брыгада з т.т. Рудакова, Навіцкага, Незаконава, Трыгуса, Бэрмана і самога Сарокіна па вырабу шліфавальных аўтастанкоў.

Прэзыдыум Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту БССР узнагародзіў тав. „Сарокіна Станіслава Станіславіча, рабочага, працуючага на гуце імя Домбаля ў г. Барысаве, канструктара-рацыяналізатара, якім праведзена рад рацыяналізатарскіх прапаноў даўшых вялікую эфэктыўнасьць гуце—за апошні час тав. Сарокін на гуце сканструяваў машыну, якая дае 15 тыс. руб. эканоміі ў год і актыўнага ўдзельніка грамадзянскай вайны на белапольскім фронце" ордэнам Працоўнага Чырвонага Сьцягу.

Так воляй ударнікаў, воляй энтузіястых першай пяцігодкі нараджаюцца новыя машыны, новыя вынаходзтвы.

Працуе, імклівіць творчая пралетарская мысьль.

Тав. Сарокін не адзін. Тысячы Сарокіных пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі працуюць на фабрыках, заводах, на калгасных палёх.

ПАДПІШЫСЯ НА **1933 г.**

на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс



# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

**24** НУМАРЫ НА ГОД

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІКОЛЫ ХВЕДАРОВІЧА

## ПАДПІСНАЯ ЦАНА

| На год | |
|---|---|
| 7 р. | 20 к. |

| На 6 м-цаў | |
|---|---|
| 3 р. | 60 к. |

| На 3 м-цы | |
|---|---|
| 1 р. | 80 к. |

ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ **30 к.**

## РАЗЬДЗЕЛЫ ЧАСОПІСУ

### МАСТАЦКІ:

Вершы, апавяданьні, навэлі савецкіх паэтаў і пісьменьнікаў Беларусі.

### КРЫТЫКА:

Артыкулы пра палітыку партыі ў мастацкай літаратуры, пра лепшыя творы савецкае літаратуры, пра тэатры, кіно, выяўленчае мастацтва БССР і інш.

### НАРЫСЫ:

З фронту сацыялістычнай індустрыі, пра сацыялістычную перабудову вёскі, пра нацкультбудаўніцтва, партрэты лепшых ударнікаў прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў і інш.

### ГУМАР і САТЫРА:

Фэльетоны, гумарэскі на літаратурныя тэмы, пародыі, эпіграмы і інш.

**У часопісу ўдзельнічаюць лепшыя сілы савецкае літаратуры Беларусі. Часопіс багата ілюстраваны малюнкамі і фото.**

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА** ўсімі агэнцтвамі сувязі і лістаносцамі, кнігарнямі ДВБ, аддзелам падпіскі кнігацэнтру ОГІЗ'у РСФСР, усімі яго філіяламі і ўпаўнаважанымі.

Часопіс „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ" прадаецца ўва ўсіх кнігарнях Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі, кіёсках Саюздруку, чыгуначных і паштовых кіёсках, у газэтаносцаў, ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР.

Адрас рэдакцыі: г. МЕНСК, САВЕЦКАЯ 59. Тэлефон 22785